


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны




№ 16 (277) ЛІСТАПАД 2019 ГОДА


**БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ**

***Без чалавечнасці не будзе вечнасці***

***Пімен Панчанка***

ТАКАЯ ГІСТОРЫЯ

# НЕ ХАВАЦЦА АД АДКАЗНАСЦІ

**Увесну на Гарадоччыне згарэў драўляны касьцёл XIX стагодзьдзя. Вецер падхапіў іскры ад сухой травы, якую палілі наводдаль, і панёс у бок сьвятыні, якая доўгія дзесяцігодзьдзі была ў аварыйным стане. Свабода знайшла жыхара вёскі Рамні Гарадоцкага раёну, супраць якога ў кастрычніку распачалі крымінальную справу аб зьнішчэньні гісторыка-культурнай каштоўнасьці па неасьцярожнасьці.**

**«Колькі разоў мы тушылі, баранілі касьцёл ад пажару»**

Драўляны касьцёл сьвятых апосталаў Пятра і Паўла ў Рамнях пабудавалі ў 1896 годзе. Ён стаяў на каменным падмурку XVIII стагодзьдзя на невялікім пагорку, пад якім цячэ дробная рэчка Пяшчанка — адзін з прытокаў Ловаці.

В. жыве ў доме побач з касьцёлам 14 гадоў. На сваім падворку і каля сьвятыні вясковец штогод прыбірае сьмецьце, лісьце, гальлё.

«Я заўсёды тут прыбіраюся, — кажа В. — Гэта мая ініцыятыва была. Сам побач жывеш. Дзеці тут гуляюцца. Прыгожы быў касьцёл — з вокнаў бачны. Лісьця і сьмецьця штораз вельмі шмат, усё ня вывезеш. Я заўсёды паліў акуратна, за агнём даглядаў. Каб я падпаліў і пайшоў, такога ніколі не было».

З аднаго боку пагорка, на якім стаяў касьцёл, дарога і неглыбокі яр. Шмат гадоў там расьце баршчэўнік.

«Калі яго ня скошваць, то і дом ня ўбачыш, — працягвае В. — Я кашу тут, колькі сябе памятаю, але баршчэўнік нічога не забівае. Пройдзе дождж, і ён зноў расьце. З Гарадка прыяжджалі, папырскалі. Зямля атручаная, а баршчэўнік расьце».

За пагоркам — палі. Калісьці гэта былі калгасныя землі, яны апрацоўваліся. Цяпер стаяць зарослыя травою і бур'яном.

«Там быльнёг, — паказвае В. — Хтосьці падпаліць, і гарыць. Колькі разоў мы тушылі, баранілі касьцёл ад пажару. Крыўдна, што не тады згарэў, а вось цяпер ад мяне».

**«Паверыць не магу, што так здарылася»**

«Тады быў добры настрой, рыхтаваліся да Вялікадня, — В. прыгадвае падзеі 17 красавіка, калі здарыўся пажар. — Я тут тры дні прыбіраўся. Сваё прыбраў, сюды перайшоў. Абкошваць і так шмат было. Думаю, падпалю, у мэтах бясьпекі буду вадою адразу заліваць».

В. кажа, што падпаліў траву за некалькі дзясяткаў мэтраў ад касьцёла. Вада зь Пяшчанкі была побач, і ён увесь час сачыў, каб полымя не пабегла.

«Было ціха-ціха. А пасьля ўзьняўся вецер, — працягвае В. — Загарэлася лаза побач. Паляцелі іскры. Ветрам іх падхапіла і панесла на сьценку. Я адразу не заўважыў, а калі ўбачыў, ня змог патушыць. Кінуў вёдры, хацян кідаць не хацеў, і пабег выклікаць пажарных. Добра, што вецер не зьмяніўся. Так бы і я згарэў. Суха было. Нельга, канечне, нічога было паліць. Сам перажываю і паверыць не магу, што так здарылася».

**«Калі давядзецца такую суму выплачваць, ніякіх грошай ня хопіць»**

Пасьля пажару В. расказаў сьледчым, як усё было. «Я побач жыву і ня буду хавацца ад адказнасьці», — кажа ён. У траўні В. атрымаў ліст, што расьсьледаваньне часова прыпынілі. У ліпені пісьмова паведамілі аб яго аднаўленьні. Апошнія навіны вясковец дазнаўся зь мясцовай газэты. У тым ліку пра экспэртызу, якая ацаніла зьнішчаны помнік архітэктуры больш як у 70 тысяч рублёў.

«Цікава, адкуль гэтыя лічбы? Хто ацэньваў? — разважае мужчына. — Калі б прыяжджалі ацэньваць, да мяне зайшлі б ці на працу. Калі давядзецца такую суму выплачваць, ніякіх грошай ня хопіць».

Як і большасьць жыхароў Рамнёў, В. працуе ў псыханэўралягічным доме-інтэрнаце ў Максімаўцы, за два кілямэтры ад вёскі.

У Рамнях шкадуюць аб здарэньні. Жыхары падтрымліваюць В.

«Ён добры гаспадар. І сям'я добрая, трох дзяцей мае. Пляцоўку дзіцячую сваімі рукамі збудаваў. Сюды цяпер з усёй вёскі дзеці прыбягаюць. Гоман да вечара стаіць», — кажа жыхарка Рамнёў.

У першы час пасьля пажару, калі чакалася паведамленьне аб штрафе, усёй вёскай зьбіраліся скідацца на яго сплату.

**«Столькі гадоў стаяў у аварыйным стане»**

Дзейным касьцёл у Рамнях ніхто зь вяскоўцаў ня памятае. Кажуць, у гады вайны немцы тут трымалі паліва. За савецкім часам у будынку захоўвалі зерне. Побач са сьвятыняй рамантавалі трактары. Рэшту мураванай агароджы расьцягалі на камяні.

«Столькі гадоў касьцёл стаяў. На ім

***(працяг на стар. 2)***

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

ЗАРОБАК

# НІЗКІ ПАКАЗЧЫК ЗАРОБКА

**Гарадоцкі раён мае адзін з самых нізкіх паказчыкаў заробка па Віцебскай вобласці за верасень.**

Паводле даных нацыянальнага статыстычнага камітэта налічаны сярэднемесячны заробак па Гарадоцкаму раёну за верасень склаў толькі 766,2 рубля — чацвёртае месца ад дна па заробках.

Статыстычныя даныя за верасень сведчаць, што па Віцебшчыне ў тыя даўно абяцаныя ў 2007 годзе 500 даляраў трапілі толькі жыхары горада нафтахімікаў — Наваполацк, у якіх за верасень сярэдні заробак склаў 1245,5 руб. У жыхароў жа абласнога цэнтра гэты заробак крыху пераваліў 1000 рублёў — 1000,2 — на 20 капеяк. У астатніх ён ад 701 рубля — Шаркаўшчына да 943 руб. — Віцебскі і Чашніцкі раёны.

На дне па заробках знаходзіцца за верасень і Гарадоцкі раён з сумай у 766,2 рубля. Гэта сума крыху болей, чым у згаданай Шаркаўшчыне і Мёрах 721,1 руб і Вушаччыне — 755,2 руб, але ніжэй чым ў астатніх 17 раёнаў Віцебшчыны. Пры гэтым сярэдні заробак па Гарадоччыне складае толькі 81% ад сярэднеабласнога ўзроўня.

Варта адзначыць, што па сярэдніх заробках Гарадоцкі раён саступае і суседняму Шумілінскаму раёну, які таксама зорак з неба не хапае і мае значна горшыя эканамічныя паказчыкі чым наш раён. Так крэдыторская пратэрмінаваная запазычанасць па нашаму раёну складае больш 17 млн. рублёў, а па суседняму больш 35 млн рублёў. Праўда ў гэтым паўгоддзі Гарадоцкі раён пачаў працаваць са стратамі ў –1 813 тыс. рублёў, а суседзі з прыбыткам у 179 тысяч.

Карціна па сярэдніх заробках у Гарадоцкім раёне, як і ў іншых адстаючых раёнах вобласці сведчыць, што падняць да сярэдняга ўзроўня заробкі задача складаная і пры гэтай сістэме кіравання не вырашальная. Колькі было інвестыцый ў Гарадоччыну. А вынік? Чарговае банкроцтва будаўнічай арганізацыі ПМК-51, дзе і кіраўніцтва прафсаюзаў і Генеральны пракурор пабывалі безвынікова ў мінулым годзе.

**Л. Антонаў**

КУЛЬТУРА

# ЛЕПШЫЯ Ў ВОБЛАСЦІ

**Народны фальклорны ансамбль «Азерыца» прызнаны лепшым на Віцебшчыне.**

Народны фальклорны ансамбль «Азерыца» Езярышчанскага ГПДК атрымаў званне лаўрэата І ступені на абласным свяцеконкурсе вясельных абрадаў і спеваў Віцебшчыны «Вялікая вясельніца-2019», што прайшоў 26 кастрычніка ў Расонах.

У свяце-конкурсе прынялі ўдзел 20 фальклорных калектываў з розных куткоў Віцебскай вобласці, а таксама госці з Расіі і Латвіі.

«Азерыца» прадставіла на конкурсе старадаўнія вясельныя традыцыі Гарадоччыны. Майстэрскі пабудаваная праграма выступлення ансамбля складалася з песен і інструментальных мелодый, характэрных для розных этапаў традыцыйнага вяселля. Віртуознасць музыкаў «Азерыцы», вельмі шчырая і кранальная манера выканання, уласцівая цудоўнай спявачцы Таццяне Раевай.

Усё гэта дало магчымасць гледачам адчуць атмасферу сапраўднага вяселля, калі хадуном хадзіла вясковая хата пад гукі гармоніка ды цымбал.

Віншуем калектыў з чарговай перамогай.

**Іна ЛЯЎКОВІЧ**

ДРОБНЫ БІЗНЕС

# ГАРАЧЫ ХЛЕБ ПРАПАНУЕЦЦА НА РЫНКУ

**На рынку Гарадка больш месяца пакупнікам прапануецца свежы хлеб у тыя ж часы, што і працуе рынак.**

Закрыццё Гарадоцкага хлебазавода на некалькі месяцаў пазбавіла жыхароў Гарадка свайго свежага хлеба. Але ўжо ў верасні былі зроблены першыя спробы пачаць выпякаць хлеб па ранейшаму рэцэпту, а таксама рабіць батоны і вітушкі.

Зараз для пакупнікоў прапануецца свежы хлеб коштам 1,10 руб., вітушка па 1,45 руб. і батон па 1,25 руб. Як кажуць гэтая прадукцыя разыходзіцца на «ура».

А калі дзённая норма не рэалізуецца, то на наступны дзень яе кошт памяншаецца на 20 капеек: адпаведна прадаецца па 90 кап, 1,25 і 1,05.

**Л. Антонаў**

# Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размяшчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

ТАКАЯ ГІСТОРЫЯ

*(пачатак на стар. №1)*

таблічкі нават не было, — кажуць у вёсцы. — Чорныя капальнікі сталі прыязджаць, дошкі на падлозе паднялі. Толькі тады ўваход закалацілі і шыльду павесілі, што гэта гісторыка-культурная каштоўнасьць».

Доўгі час касьцёл стаяў у аварыйным стане. Па словах вяскоўцаў, ён ня быў патрэбны ані сельсавету, ані раёну. Час ад часу ў Рамні прыязджалі палякі ў пошуках старых пахаваньняў. Некалькі гадоў таму ля дарогі, што вядзе да сьвятыні, паставілі каталіцкі крыж. Арыентуючыся па мапе, сфатаграфаваць касьцёл заяжджалі рэдкія турысты — указальніка, які б абазначаў дарогу да гісторыка-культурнай каштоўнасьці, ніколі не было.

Большасьць жыхароў вёскі Рамні праваслаўныя. Найбліжэйшая да Рамнёў дзейная царква — у Гарадку. Мясцовы бацюшка зьбіраўся пераасьвяціць касьцёл, але міжканфэсійных пытаньняў так і ня вырашылі.

«Усяго было з касьцёлам гэтым, а мяне не пераждыў», — дадае В.

**«Пасьля пажару нікто сюды не прыяжджаў»**

Пасьля здарэньня прайшло шэсьць месяцаў. Места вакол пажару застаецца непрыбранае.

«Дрэваў шмат, тут увесь час завалы, — кажа В. — Пасьля ўрагану дрэва павяліла, правады паабрывала. Цэлы дзень безь сьвятла былі. Я ўжо не пасьпеў тут прыбраць. Цяпер мне тут забаронена працаваць. А пасьля пажару нікто сюды не прыяжджаў».

Абпаленыя бярвёны нагадваюць пра здарэньне.

«Не было і дня, каб пра гэта ня думаў. Цяпер толькі здымкі засталіся», — В. паказвае зімовыя фатаздымкі, як ён зь дзецьмі будуе сьнежную крэпасьць перад касьцёлам.

**"Радыё Свабода"**

АДУКАЦЫЯ

# СТО В ГОРОДКЕ?

**Одаренные технари уже в 18 — 19 лет могут починить автомобиль. А для некоторых сельхозпредприятий дорогостоящий ремонт — проблема. Чтобы одни могли заработать, а другие — реанимировать технику, в Городокском аграрно-техническом колледже решили открыть собственную СТО для тракторов и комбайнов.**

**Практика и экономия**

Владимир Шитько, директор Городокского государственного аграрно-технического колледжа, где в том числе готовят трактористов, рассказал любопытную историю:

— Как-то у нашего учебного трактора «Беларус-3022» вышел из строя двигатель. На ближайшем заводе, куда мы обратились, за ремонт попросили 22 тысячи рублей. В столичной фирме ценник и того больше! Тогда я предложил преподавателям, треть из которых оканчивали БГАТУ, сделать ремонт самостоятельно. Вместе с учащимися. Мы мотор перебрали, докупили вышедшие из строя детали. Энергонасыщенный трактор с ним до сих пор бегает. А обошлось это в 2 тысячи рублей! Тогда мы всерьез задумались: почему бы не открыть собственную станцию технического обслуживания для тракторов и комбайнов?

Владимир Владимирович говорит, что о похожих проектах в Беларуси пока не слышал. Но признается, задумку хочет реализовать не для того, чтобы оказаться первым учебным заведением в стране, где появится собственная СТО:

— Идея возникла в 2018-м после того, как вместе с облисполкомом и партнерами из МТЗ, Гомсельмаша, Витебского моторемонтного завода и других предприятий открыли ресурсный центр. Сегодня на установленных там симуляторах, в компьютеризированных лабораториях занимаются не только наши ребята, но и учащиеся 12 учебных заведений региона, имеющих аграрный уклон.

В прошлом году в колледже открыли новую специальность, по которой стали готовить ремонтников сельскохозяйственной техники. Все это поможет подковать будущих специалистов теоретически. Но без практики — никуда. Чтобы молодежь могла практиковаться, набить руку, решили открыть станцию технического обслуживания для энергонасыщенных тракторов и комбайнов.

**Хозяйствам подставят плечо**

По мнению специалистов, есть у проекта и другие плюсы. Во-первых, для учащихся, которых только на очном отделении в Городке более 700, это реальная возможность заработать. Во-вторых, если цена на ремонт двигателя без накруток окажется в 10 раз ниже, сельхозпредприятиям Городокского и других близлежащих районов куда легче будет реанимировать технику, простаивающую из-за отсутствия денег на ремонт. И наконец, если дело пойдет, колледж готов выступить в роли своеобразной райсельхозтехники, где можно создать обменный фонд деталей и узлов сельхозхозяйственных машин. Да, нужно договориться с хозяйствами о передаче тракторов и комбайнов, которые не на ходу. Но это, согласитесь, лучше, нежели старые машины сгниют под забором либо будут украдены какими-нибудь проходимцами и сданы в металлолом.

Преподаватели и мастера колледжа идею одобрили. Преподаватель Евгений Федотов уверен, что практический опыт для специалиста, который эксплуатирует и ремонтирует технику, бесценен:

— С птицефабрики «Городок» нам пригоняли «Беларус-3022», на который из-за неисправности гидросистемы не могли навесить плуг. Вооружившись тестером и компьютером со специальным программным обеспечением, мои ученики разобрались, что проблема в электропроводке. В КУСХП им. Свердлова помогли отремонтировать кормоуборочный комбайн. Раньше я ради шутки пригонял мальчишкам свою легковушку и оставлял в качестве «подопытного кролика». Признаюсь, боялся сначала, что угробят. А сегодня не сомневаюсь, что 90 процентов неисправностей они устранят самостоятельно. Не случайно некоторые наши старшекурсники покупают оборудование и ремонтируют автомобили друзей и знакомых, зарабатывая на этом.

**Ключ на старт**

Чтобы направить энергию подопечных в цивилизованное русло, в колледже уже обустраивают СТО для легковых автомобилей. Для этого отремонтировали старые пустующие мастерские, установили шкаф для зарядки аккумуляторов, гидравлический 60-тонный пресс, компрессометр, современные установки для замены масла и очистки топливных систем. Лаборант Максим Соловьев, которого я там встретил, колдовал над колесом «жигуленка»:

— Когда я здесь учился на техника-механика, таких возможностей практиковаться не было.

Третьекурсник Кирилл Кожемяченков не сомневается, что СТО поможет глубже изучить устройство автомобиля:— Ответственности здесь больше, нежели при работе на учебном стенде. Если знаешь, что завтра хозяин придет за автомобилем, дурака свалять не получится!

Открыть СТО для легковушек, по словам Владимира Шитько, планируют до конца года:

— Если эту станцию мы оборудовали за свои внебюджетные деньги, то на СТО для тракторов и комбайнов Витебский облисполком выделил 420 тысяч рублей. Мы также вложим в нее более 100 тысяч рублей. Эти затраты должны окупиться в течение 2 лет.

Помещение в колледже уже присмотрели. В нем можно ремонтировать 4 трактора одновременно. В начале 2020-го будет объявлен тендер на закупку оборудования. А открытие станции для обслуживания энергонасыщенной техники хотят приурочить к началу следующего учебного года.

**КОМПЕТЕНТНО**

Сергей Янкович, начальник отдела механизации, энергетики и охраны труда комитета по сельскому хозяйству и продовольствию Витебского облисполкома:

— Есть поручение Президента по восстановлению структуры райагросервисов. Городокский проект реализуется в этом русле. С другой стороны, он даст хозяйствам молодых специалистов с максимально развитыми практическими навыками. Когда тракторист досконально знает машину, а не только бездумно ее эксплуатирует, у него простоев меньше, а выработка — больше.

**Сергей ГОЛЕСНИК**
**"Беларусь сегодня"**

КРЫМІНАЛ

# НАКІНУЎСЯ НА СУДОВАГА ВЫКАНАЎЦА

**Перад судом Гарадоцкага раёна нядаўна паўстаў беспрацоўны жыхар райцэнтра. Яго абвінавацілі па артыкулу «Гвалт альбо пагроза ў дачыненні да службовай асобы, якая выконвае службовыя абавязкі, або іншай асобы, якая выконвае грамадскі абавязак». Мужчына напаў на судовага выканаўца, якая прыйшла апісваць яго маёмасць.**

Калі прадстаўнік закона патэлефанавала ў дзверы, 40-гадовы гарадкачанін спярша хацеў выправадзіць яе дадому. У грубай форме заявіў: «Ідзіце! Маёй маёмасці ў гэтай хаце няма! »

Дзяўчына і праўда збіралася сысці, але ёй усё ж адкрылі дзверы, пра гэта кажа Наталля Матлах, памочнік пракурора Гарадоцкага раёна. А далей неплацельшчык павёў сябе неадэкватна: пачаў крычаць, махаць рукамі, выхопліваць дакументы, а потым і зусім накінуўся на дзяўчыну з кулакамі. У нейкі момант забіяка схапіў шарыкавую ручку і, накіраваўшы яе на судовага выканаўцы, заявіў: «Я хачу яе забіць».

Калі работнік аддзела прымусовага выканання ўцякла са злашчаснай кватэры, то звярнулася ў бальніцу і міліцыю. А галоўны фігурант справы, акрамя даўгоў за тэлефон і паслугі сувязі, яшчэ дадаў у свой «паслуговы спіс» 366-ы артыкул Крымінальнага кодэкса. Суд прысудзіў абвінавачанага да двух месяцаў арышту. Прысуд уступіў у законную сілу.

*Пераклад рэдакцыі на беларускую мову.*

**Паводле: www.sb.by**

БЯСПЕКА

# «НЕ ПРАПАЛЬВАЙ СВАЁ ЖЫЦЦЁ!»

**У рамках рэспубліканскай акцыі «Не прапальвай сваё жыццё!» работнікі Гарадоцкага РАНС сумесна з юнымі выратавальнікамі правялі прафілактычныя мерапрыемствы на аўтастанцыі ў Гарадку, на прыпынках і гарадскім транспарце.**

Работнікі РАНС арганізавалі на аўтастанцыі горада Гарадка прафілактычныя мерапрыемствы, падчас якіх нагадвалі насельніцтву пра захаванні правіл пажарнай бяспекі, а аматарам тытунёвага дыму ратавальнікі растлумачвалі, якія небяспекі тоіць у сабе гэтая згубная звычка.

Таксама ў ходзе мерапрыемстваў, кожны жадаючы мог абмяняць цыгарэту на цукерку. Юныя выратавальнікі і работнікі МНС раздалі жыхарам тэматычную наглядна-выяўленчую прадукцыю, распавядалі пра небяспеку курэння ў ложку, колькасці пажараў, людзей, якія загінулі па гэтай прычыне ў мінулым і гэтым годзе.

**vitebsk.mchs.gov.by**

КУЛЬТУРА

# У КАЗАЧНЫ ЛЕС ЗА ПРЫГОДАМІ

**Прыгоды ў казачным лесе праз казачны партал арганізавалі культработнікі Гарадка.**

Ля ўваходу ў казачны партал рабят сустрэў добры дзядзечка Мухамор, які расказаў ім аб інтрыгах паскуддзя. Гэтае паскуддзе зачаравала казачны лес, замкнула у дубовым цераме Златушку - каралеву Восені і расставіла на шляху пасткі, каб ніхто не змог яе вызваліць. Але хлопцы смела адправіліся насустрач выпрабаванням.

На шляху да церама маленькія вандроўўчыкі пазнаёміліся з Шуршулей - захавальніцай лесу, якая суправаджала іх на доўгім шляху. Дапамаглі Цётухна Саве прыбрацць у лясной школе, за што атрымалі памяткі «Правілы паводзінаў у лесе" і першую падказку да галоўнай загадкі. Нарыхтавалі жалудоў на зіму для трох парсючкоў. Чароўныя Ніф-Ніф, Наф-Наф і Нуф-Нуф ўручылі дзятве чароўны жалуды - падказку, якая прывяла іх да Кашчэя Несьмяротнаму. Прабраўшыся з ім праз магічнае павуціннe, хлопцы зварылі Вядзьмарскае зелле ў хатцы Бабы Ягі. Атрымаўшы яшчэ адну падказку, адправіліся да Машы і Мядзведзю, з якімі танцавалі, лавілі рыбку і гулялі.

На наступным пляцоўцы рабят сустрэлі рыжы Кот і мукамолы. Яны разам адправіліся да кікімары і Аукі, якія таксама падрыхтавалі розныя гульні і эстафеты для гасцей казачнага лесу. Дзеці вадзілі карагод дружбы, гулялі, танцавалі і весяліліся.

У цераме Златушка частавала рабят гарбатай, пірагамі і прысмакамі. Усе госці атрымалі памятныя прызы.

Свежае паветра восеньскага лесу, цікавая, насычаная праграма падарылі дзецям выдатны настрой і зарад пазітыву, а фатаграфіі, зробленыя на разнастайных тэматычных пляцоўках, будуць доўга нагадваць пра гэта захапляльнае падарожжа.

**Т. Гаражанка**

ПАЛІТАЛОГІЯ

# ДЭМАКРАТЫЯ З ПРЫМЕТНІКАМІ

**Кожны савецкі школьнік ведаў, што слова «дэмакратыя» сканструяванае з двух грэчаскіх словаў (δῆμος — «народ» і κράτος — «улада») і азначае «народаўладдзе». У стагоддзе інтэрнэту Вікіпедыя вызначае дэмакратыю як палітычную сістэму, «у аснове якой ляжыць метад калектыўнага прыняцця рашэнняў з роўным уздзеяннем удзельнікаў на вынік працэсу або на яго істотныя стадыі».**




Зразумела, Вікіпедыю не варта разглядаць у якасці ісціны ў апошняй інстанцыі. Дэмакратыя на тое і дэмакратыя, што кожны надзелены правам даваць сваё вызначэнне гэтаму сацыяльнаму феномену. Ёсць такое права і ў старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай. У інтэрв'ю soyuz.by яна ім і скарысталася: «Я магу сказаць, што колькасць прэтэндэнтаў яшчэ да рэгістрацыі большая, чым тры гады таму, і значна большая, чым падчас парламенцкіх выбараў 2008 і 2004 гадоў. Па сутнасці, мы вярнуліся да лічбаў 2000 года, калі былі вельмі яркія і вельмі альтэрнатыўныя парламенцкія выбары. Таму казаць пра тое, як у нас вельмі любяць гаварыць апазіцыя, нібыта ў нас няма дэмакратыі... Пры такой колькасці прэтэндэнтаў, людзей, якія рэальна ідуць у палітыку і хочуць быць палітыкамі, — ну гэта папросту недарэчна».

**Усё ў руках ЦВК**

Жыццё не стаіць на месцы. Яно бесперапынна развіваецца — рухаецца ад простага да складанага. У пачатку XIX стагоддзя былі лекары. Яны і кроў пускалі, і зубы вырывалі. Спецыялістаў такога шырокага профілю сёння днём з агнём не знайсці, затое ў звычайнай гарадской паліклініцы можна запісацца на прыём да дзясяткаў спецыялістаў. З дэмакратыяй з часоў Арыстоцеля і Платона здарылася аналагічная гісторыя. Адзінага ўяўлення пра народаўладдзе няма. Разнастайнасць дасягаецца шляхам далучэння да назоўніку «дэмакратыя» розных прыметнікаў.

Як тут ні прыгадаць расійскага дзяржаўнага дзеяча, аўтара канцэпцыі «суверэннай дэмакратыі» Уладзіслава Суркова. Але акрамя «суверэннай дэмакратыі» маюцца прыклады дэмакратыі кіраванай, неліберальнай, закрытай, плебісцытнай ды іншых.

Да якой з пералічаных варта аднесці дэмакратыю, першаадкрывальнікам якой з'яўляецца Лідзія Ярмошына? Адназначнага адказу на гэтае пытанне ў мяне няма. Не выключана, што мы маем справу з новай яе разнавіднасцю, яшчэ не апісанай навукай. Аднак веданне стандартнага курса марксісцка-ленінскай філасофіі падказвае мне, што без закона «пераходу колькасці ў якасць» тут не абышлося.

Прапаную зноў перачытаць цытату старшыні ЦВК. Наяўнасць/адсутнасць дэмакратыі ў Беларусі яна ставіць у прамую залежнасць ад колькасці прэтэндэнтаў на дэпутацкія мандаты. Відавочна, маецца нейкае крытычнае значэнне колькасці прэтэндэнтаў, ніжэй за якую казаць пра дэмакратыю не даводзіцца, а вышэй — яна (дэмакратыя) квітнее, нібы цюльпаны на дзялянках батанічнага саду вясной.

Вызначыць запаветную колькасць можна вопытным шляхам. Тут усё ў руках ЦВК. Дазуючы колькасць прэтэндэнтаў на розных выбарчых акругах і адсочваючы затым у парламенце актыўнасць абраных дэпутатаў, можна без цяжкасці вылічыць патрэбны для дэмакратыі мінімум.

Навука пачынаецца там і тады, дзе і калі пачынаюцца вымярэнні. Галілею пры вывучэнні законаў рухуківача пульс замяняў хранометр з секунднай стрэлкай. Спадзяюся, Лідзіі Ярмошынай да такой архаікі апускацца не давядзецца, і родная «дзяржава для народа» забяспечыць яе сучасным калькулятарам.

Які ж прыметнік знайсці для дэмакратыі, сфарміраванай у Беларусі за апошнюю чвэрць стагоддзя? Два з магчымых варыянтаў — «навуковая» або «матэматычная» дэмакратыя. Зрэшты, я забягаю наперад. Ёсць першаадкрывальнік новага віду дэмакратыі. Яму і сцяг у рукі.

**«Фасадная» дэмакратыя**

Але, па шчырасці, якая розніца, колькі чалавек прэтэндуе на адзін дэпутацкі мандат? Якім чынам гэта адбіваецца — і ці адбіваецца наогул — на ўзроўні дабрабыту простых людзей?

Вернемся да пачатку артыкула. Дэмакратыя, згодна з Вікіпедыяй, — гэта метад калектыўнага прыняцця рашэнняў з роўнымі правамі для ўсіх грамадзян. Гэта вызначэнне дэмакратыі не супярэчыць і артыкулу 3 Асноўнага закона РБ: «Народ ажыццяўляе сваю ўладу непасрэдна, праз прадстаўнічыя і іншыя органы ў формах і межах, вызначаных Канстытуцыяй».

Палата прадстаўнікоў і з'яўляецца ў Беларусі найважнейшым прадстаўнічым органам, праз які народ можа ажыццяўляць сваю ўладу. Чым менш бюракратычных рагатак на шляху рэгістрацыі ўсіх жадаючых пазмагацца за дэпутацкі мандат, тым больш шанцаў, што сярод пераможцаў апынуцца самыя вартыя. Аднак, з пункту гледжання ацэнкі ўзроўню дэмакратыі, умова гэта з'яўляецца абавязковай, але недастатковай.

У недзяржаўнай прэсе публіцысты часам адносяць беларускі рэжым да электаральнага аўтарытарызму (беларускі аўтарытарызм, як і беларуская дэмакратыя, не можа абысціся без прыметніка). Але тут ёсць пра што паспрачацца. Справа ў тым, што аўтары тэрміну «электаральны аўтарытарызм», амерыканскія палітолагі Стывен Лявіцкі і Лукан Вэй, выразна аддзяляюць электаральны аўтарытарызм ад рэжымаў «фасаднай» дэмакратыі. Ва ўмовах электаральнага аўтарытарызму захоўваюцца палітычныя інстытуты (выбары, прадстаўнічыя органы, незалежны суд), якія могуць быць эфектыўна выкарыстаныя апазіцыяй для таго, каб адхіліць ад улады аўтарытарны рэжым…

**Стаць другім Катарам Беларусі не пагражае**

Ці існуе верагоднасць трансфармацыі беларускага варыянту дэмакратыі з прыметнікамі ў дэмакратыю без прыметнікаў? Здавалася б, гісторыя дае нам шанец, бо прыкладаў падобных трансфармацый зверху дастаткова: пакт Манклоа ў Іспаніі ў 1977 годзе, Бразілія ў 1983–1985 гадах, Польшча ў 1980-х. Аднак ёсць адно «але», на якое ўказвае расійскі сацыёлаг Таццяна Варажэйкіна: «Я не ведаю ніводнага прыкладу таго, каб аўтарытарны рэжым, тым больш загніваючы аўтарытарны рэжым, трансфармаваўся сам па сабе, зыходзячы з уласных добрых намераў. Так не бывае».

Ва ўсіх пералічаных прыкладах трансфармацыі зверху сталі вынікам магутнага ціску знізу. Без грамадства (народа) змяніць статус-кво, што склаўся, ніхто самастойна наверсе не збярэцца. Тут варта зноў нагадаць, што дэмакратыя — гэта народаўладдзе. Самы актыўны ўдзел народа патрэбны як для будаўніцтва, так і для разбурэння дэмакратыі. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што гісторыя двух брацкіх народаў на постсавецкай прасторы развіваецца паралельна, нягледзячы на шматлікія адрозненні ў дэталях.

…Звернемся да спісу, што ранжыруе краіны па ВУП на душу насельніцтва за 2018 год (паводле парытэту пакупніцкай здольнасці). У першай дваццатцы размясціліся 13 дэмакратычных краінаў, 6 нафтаздабываючых краінаў і адно выключэнне, якое пацвярджае агульнае правіла, — Сінгапур.

Стаць другім Катарам або Брунеем, па зразумелых прычынах, Беларусі не пагражае. Няма шанцаў і на паўтарэнне лёсу Сінгапура — краіны аўтарытарнай, але з судовай сістэмай, пабудаванай на ўзор Англіі. Застаецца агульнаеўрапейскі шлях. Выбар невялікі. Зразумела, можна працягваць ісці сваім шляхам, вынік якога ў кароткатэрміновай перспектыве будзе залежаць ад узроўню расійскіх падачак.

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ПРАДУКЦЫЙНАСЦЬ ПРАЦЫ

# ІМ — ПАЛАЦЫ, А ЛІВЕРКА — НАМ?..

**Прадукцыйнасць працы беларуса амаль у 6 разоў ніжэйшая, чым у еўрапейца. А між працаўнікамі дзяржаўнага прадпрыемства і прыватнага — розніца ў 2 разы. Няўжо беларусы не ўмеюць працаваць? Што трэба змяніць, каб мы сталі больш зарабляць?**

«Асноўны момант — максімальная колькасць аб'ектаў. Маштабаваць колькасць аб'ектаў. Рабіць не пяць, а дваццаць. І за кошт гэтага і больш прадукцыйнасць працы і больш заробак», — тлумачыць сваё бачанне эфектыўнай працы дырэктар будаўнічай кампаніі «АртБудГрад» Іван Матвееў.

У Івана — будаўнічая фірма і сотня будаўнікоў пад кіраваннем, замовы распісаныя на год наперад. Ён імкнецца заўсёды мець аптымальную колькасць аб'ектаў у працы. Тады брыгады рабочых занятыя ўвесь час.

У каштарысе кожнага аб'екту доля заробкаў рабочых вызначаная. Колькі зрабіў — столькі і атрымаў. Ніхто не атрымлівае грошай проста так. У той жа час ніхто не ўлягае за капейкі.

Прадукцыйнасць працы — гэта агульная выручка, падзеленая на колькасць работнікаў.

Калі лічыць паводле валавога прадукту, то ў 2017 годзе адзін беларус вырабляў прадукцыі на 13 тысяч долараў. У Польшчы гэты паказнік складаў амаль 57 тысяч, у Еўразвязе — 82 тысячы, а ў ЗША — 111 тысяч долараў.

Нават дзяржаўныя эканамісты прызнаюць, што нашыя вытворчасці нетэхналагічныя, дужа стратныя ў плане матэрыялаў і энергаёмістасці і далёкія ад сучасных галоўных тэхналогіяў.

«Калі ўзяць, напрыклад, азіяцкія краіны, якія 30 гадоў таму былі ў такім жа становішчы, як Беларусь, то сёння яны апярэджваюць нас у 3–5 разоў. Краіны Усходняй Еўропы, з якімі мы былі на адным узроўні, апярэджваюць нас больш чым напалову», — прыводзіць прыклады эканаміст Яраслаў Раманчук.

Высокія падаткі робяць нашую прадукцыю неканкурэнтаздольнай. Крэдыты для бізнесу дарагія, а мытныя бар'еры абмяжоўваюць выхад на міжнародны рынак. А які заробак плаціць працаўнікам, вырашае не ўласнік, а чыноўнік.

«Намінальная заробтная плата павялічылася на 14 %, а прадукцыйнасць працы — на 1,3 %. Вось за такое трэба расстрэльваць, таму што 14 % праелі, а вы сталі працаваць лепш усяго толькі на 1,3 %. Вы не даганяеце краіны Усходняй Еўропы, вы адстаяце», — абураецца эканаміст.

Пры такім росце прадукцыйнасці працы рост заробку мусіць быць не большы за 0,5 %. Астатняе трэба інвеставаць у развіццё.

Рост прадукцыйнасці даюць аўтаматызацыя і рабатызацыя. І ўдзел у міжнародных ланцугах вытворчасці са сваім канкурэнтаздольным прадуктам.

«Не заўсёды прадукцыйнасць працы трэба ставіць у аснову. Калі думаць толькі пра тое, як зрабіць больш вырабаў за адзінку часу, то гэта можа прывесці да таго, што ўпадзе якасць», — лічыць Аляксандра Нехарошава, дырэктарка кампаніі «СтоўнТэк».

Нехта сцвярджае, што беларус ніколі не будзе працаваць гэтак адказна, як немец, бо іншы менталітэт. Але эфектыўных работнікаў на рынку хапае — іншыя ў прыватніка проста не прыжываюцца. Таму ўсе магчымасці павысіць прадукцыйнасць працы ёсць — галоўнае, стварыць на тое неабходныя ўмовы.

Глядзіце праграму «Асабісты капітал» кожны панядзелак а 19:00 на тэлеканале «Белсат», а таксама онлайн на нашым сайце. Далучайцеся да нашых старонак ў Facebook ды Однoклассниках. Падпісвайцеся на нашурассылку і раз на месяц вы будзеце атрымліваць ліст з чатырма найбольш карыснымі сюжэтамі «Асабістага капіталу».

**"Белсат"**

ПАДЗЕННЕ МАРАЛЕСА

# УРОК ДЛЯ ПУЦІНА І ЛУКАШЭНКІ

**За некалькі дзён да свайго сыходу ў адстаўку балівійскі прэзідэнт Эва Маралес паспеў апублікаваць віншаванне, якое расейскі калега Уладзімір Пуцін адправіў яму пасля «перамогі» на выбарах кіраўніка дзяржавы. На выбарах, на якіх Маралес з пункту гледжання Канстытуцыі сваёй уласнай краіны наагул не мог бы балатавацца, калі б не дазвол лаяльнага Канстытуцыйнага суда. На выбарах, фальсіфікацыі вынікаў якіх адзначаліся літаральна ў першыя гадзіны пасля апублікавання вынікаў і якія прывялі да масавых пратэстаў насельніцтва.**

Уладзімір Пуцін мог бы пачакаць — як чакалі дазволу балівійскага крызісу шматлікія іншыя кіраўнікі дзяржаваў. Але чакаць — не па крамлёўскіх правілах.

**Пуцін і дыктатары, што страчваюць уладу**

Віншаванне Пуціна — не віншаванне нават, а заахвочванне. Заклік рашуча дзейнічаць супраць «бунтаўнікоў».

Іншага няўдалага пераможцу прэзідэнцкіх выбараў — Віктара Януковіча ў 2004 годзе, падчас першага Майдану — Пуцін віншаваў двойчы, і гэтыя яго пасланні ўжо ўвайшлі ва ўкраінскі палітычны фальклор.

Пуцін спяшаецца не выпадкова, таму што можа атаясамліваць сябе з кожным дыктатарам, што губляе ўладу.

Эва Маралес кіраваў Балівіяй на 6 гадоў менш, чым Пуцін Расеяй — з 2006 года. І, як і шмат якія палітыкі-папулісты, карыстаўся відавочнай папулярнасцю ў большасці суайчыннікаў. Менавіта гэта дазваляла яму заставацца ва ўладзе тры тэрміны запар насуперак патрабаванням закона — суд у 2014 годзе не залічыў яму першага тэрмін прэзідэнцтва, што дазволіла Маралесу балатавацца на трэці тэрмін як на другі, а калі прыйшоў час чацвёртага тэрміну, які пры ўсім жаданні нельга было абвясціць другім, пачаліся новыя маніпуляцыі з законам і Канстытуцыяй.

**Лаяльнасць штыкоў**

І чым гэтая балівійскі практыка адрозніваецца ад «бясконцасці» Аляксандра Лукашэнкі ці маніпуляцыяў Пуціна, які даседжваў законны чацвёрты тэрмін дзякуючы «ракіроўцы» з Дзмітрыем Мядзведзевым?

На першы погляд, толькі геаграфіяй. Але на практыцы аказваецца, што неабходнай умовай існавання такога рэжыму з'яўляецца лаяльнасць штыкоў — аўтарытарныя кіраўнікі нашага часу ў літаральным сэнсе сядзяць на штыках і пры першых жа прыкметах адсутнасці падтрымання ці хаця б нейтралітэту ўзброеных сілаў і паліцыі ратуюцца ад свайго любімага народа ўцёкамі.

Менавіта таму Януковіч у 2014 годзе апынуўся ў Расеі, а Маралес паляцеў са сталіцы Балівіі на першым жа запраўленым самалёце. А Нікалас Мадура працягвае здзекавацца з Венесуэлы менавіта таму, што з'яўляецца стаўленікам вайсковай клікі, якая пакуль яшчэ не адмовіла яму ў падтрымцы.

Якую сілу меў бы рэжым Пуціна, калі б за ім не стаяў саюз чэкістаў і алігархічнай мафіі?

Таму віншаванне Маралесу было дэманстрацыяй салідарнасці тых, хто можа ва ўтрыманні ўлады разлічваць толькі на сілу, а не на сумленную канкурэнцыю. Сілу штыкоў, сілу прапаганды, сілу падачак «чалавеку з ружжом».

З уцёкаў балівійскага прэзідэнта ў Маскве ці Менску могуць зрабіць толькі адну простую выснову: паліцэйскую дзяржаву трэба ўмацоўваць, бо народная любоў рана ці позна праходзіць, а патрон і дубінка застаюцца.

**Віталь Портнікаў**
**МВ для belsat.eu**

КАСТРЫЧНІЦКІ ПЕРАВАРОТ

# «СВЯТКАВАЦЬ ГЭТЫ ДЗЕНЬ — ЗЛАЧЫНСТВА СУПРАЦЬ РОЗУМУ»

**Беларусь — адзіная краіна свету, дзе кастрычніцкі пераварот 1917 года, які прынёс гібель і гора мільёнам людзей, па-ранейшаму лічыцца святам. Гэта як калі б іспанцы святкавалі пачатак грамадзянскай вайны 1936 года, а немцы — прыход да ўлады Гітлера. Нават у Расіі перасталі адзначаць гэтую дату, разумеючы, што дзіка называць святочным дзень, які паклаў пачатак духоўнага і фізічнага вынішчэння нацыі.**

У гэтым месцы які-небудзь запалошны Шурык з трыма класамі адукацыі і падоўжанкай ад БТ, звычайна пачынае люта жэстыкуляваць і парыраваць, што, а вось французы, маўляў, святкуюць Дзень узяцця Бастыліі. Здзічэлага Шурыка прыйдзецца ашаламіць: ніякага Дня ўзяцця Бастыліі французы не святкуюць. Яны моцна б здзівіліся, даведаўшыся, што гэта памылковае меркаванне ўсё яшчэ існуе ў краінах былога СССР.

Французы адзначаюць Нацыянальнае свята — La Fête Nationale — такая яго афіцыйная назва, і звязана яно зусім не з Бастыліяй. З той заварушкай у савецкую эпоху яго звязала камуністычная прапаганда, бурна рамантызаваўшая Французскую рэвалюцыю. На справе ж галоўнае свята Францыі ўзыходзіць зусім да іншай падзеі.

Пасля пачатку рэвалюцыі кароль Людовік XVI не стаў душыць яе сілай, хоць і не прызнаў яе — ён вырашыў адседжвацца ў Версалі, чакаючы, што як-небудзь усё само сабой рассмокчацца. Ня рассмакталася. Услед за бунтамі, пагромамі цалкам прадказальна грымнуў голад. Скандуючы «Хлеба! Хлеба!», натоўпы разгневаных парыжанак накіраваліся ў Версаль.

Людовіка вярнулі ў Парыж, дзе пад захопленыя крыкі «Няхай жыве кароль!» прапанавалі падпісаць «Дэкларацыю правоў чалавека і грамадзяніна». Подпіс быў пастаўлены, і гэты момант палічылі яднаннем нацыі і кароны, пасля чаго да колераў рэвалюцыйнага Парыжа — чырвонага і сіняга — дадаўся каралеўскі белы. Так нарадзіўся нацыянальны французскі сцяг, які мы ведаем сёння.

14 ліпеня 1790 года паводле каралеўскага ўказу на Марсавым полі прайшлі ўрачыстасці, названыя Нацыянальным святам, за якім пасля замацаваўся тэрмін Свята Федэрацыі і адзінства Нацыі. Па іроніі лёсу адбылося гэта ў той жа дзень, што і падзенне Бастыліі за год да гэтага. У ходзе святкаванняў адбыўся ваенны парад і баляванні, быў дадзены салют. У гуляннях прынялі ўдзел каля 100 тысяч чалавек, якія прыехалі з усёй краіны.

Праўда, праз нейкі час нізкія інстынкты мас узялі верх, і пачалося тое, што, уласна, і асацыюецца сёння з Французскай рэвалюцыяй: кроў, жах, тэрор, масавыя зверствы, зноў голад і зноў кроў.

Але 14 ліпеня 1790 года — хоць храналагічна яно і ўваходзіць у рэвалюцыйную дзесяцігодку — запомнілася як добры і абнадзейваючы дзень. У 1880 годзе за ім канчаткова замацаваўся статус галоўнага свята Францыі, так што французы святкуюць не пачатак рэвалюцыі, якая прынесла краіне кроў і гора, а адзін з нямногіх светлых яе момантаў — нараджэнне нацыянальнага сцяга, зацвярджэнне «Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна» і ўрачыстасць аб'яднання ўсіх жыхароў краіны ў адзіную нацыю.

La Fête Nationale святкуецца менавіта як дзень свабоды і незалежнасці французскага народа, як пачатак новай Францыі, дзе кожны чалавек, мае годнасць, правы і свабоды, якія ніхто не павінен парушаць.

А што святкуем мы 7-га лістапада? Пачатак эпохі, што выкасіла цвет беларускай нацыі і падарвала яе духоўныя карані?

Калі праводзіць аналогію з Францыяй, нашым нацыянальным святам павінна быць не 7 лістапада — дата ганебная і праклятая — а 25 сакавіка, Дзень Волі і памяці аб тым, як у 1918 годзе была абвешчаная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Але ў нас жа ля стырна стаіць «гісторык»! Ён лепш за ўсіх усё ведае і пра вершы Быкава, і пра Скарыну ў Піцеры, і пра 7-га лістапада, якое для яго «свята міру і сапраўдных правоў чалавека».

Беларускаму «гісторыку» пара растлумачыць важную рэч. Ёсць катэгарычнае адрозненне, якое не дазваляе ставіць на адну дошку Французскую і Кастрычніцкую рэвалюцыі, а тым больш звязваць апошнюю з мірам і правамі.

Французская рэвалюцыя (у самой Францыі яе, дарэчы, не называюць Вялікай) прынесла французам нямала бед, але не вынішчыла іх культуру і не падарвала духоўныя карані нацыі. Больш за тое: як ні парадаксальна гэта гучыць, але з рэвалюцыйнага тыгля Францыя выйшла сапраўды абноўленай, дэмакратычнай краінай. Так, метады рэвалюцыянераў былі жудасныя і непрымальныя. Але іх ідэалы і мэты апынуліся сугучныя выклікам часу і логіцы развіцця цывілізацыі.

Гуманістычныя прынцыпы, сфармуляваныя ў "Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна", — «людзі нараджаюцца і знаходзяцца свабоднымі і роўнымі ў правах», «свабода заключаецца ў магчымасці рабіць усё, што не шкодзіць іншаму», «ніхто не павінен мець турботы за свае меркаванні», «свабодная перадача іншым думак і меркаванняў ёсць адно з каштоўных правоў чалавека» і г.д. — ляжаць сёння ў аснове любога цывілізаванага грамадства.

Кастрычніцкая ж катавасія ставіла мэтай фантасмагарычную ўтопію, пабудову ідэальнага «новага свету», а таму першапачаткова была асуджана на правал. Пры гэтым у французскіх рэвалюцыянераў бальшавікі запазычылі метады, але не мэты, практыку тэрору, але не ідэю правоў чалавека. Так што перш, чым пацярпець крах, гэтая ўтопія на цэлыя 70 гадоў зрынула ў бездань крыві і страху народы, што трапілі пад яе малах.

З гэтага кашмару ўсе яны выйшлі знявечанымі і спустошанымі. Некаторыя былі так перакручаныя духоўна і фізічна, што да гэтага часу не могуць прыйсці ў сябе. А камусьці і не даюць гэта зрабіць, прымушаючы і далей будаваць утапічны дурдом — з пафаснай балбатнёй замест рэальных дасягненняў, хранічнай хлуснёй з кожнага праса і зневажаннем усіх «несапраўдных» правоў.

7 лістапада — «чырвоны дзень календара» — гэта цынічны плявок у твар ахвярам саўдэпаўскага пандэмоніюма. Святкаваць гэты дзень — значыць, здзяйсняць злачынства супраць розуму, памяці і годнасці. Але гэта яшчэ і плявок у будучыню, злачынства супраць карысці дзяцей і ўнукаў.

Бо кожны год, праведзены ва ўладзе утопіі — гэта год, выкрадзены ў іх. І чым даўжэй падтрымліваюцца ўтапічныя кроквы, тым больш сіл давядзецца аддаць дзецям на іх дэмантаж.

**Зміцер Растаеў**
**https://novychas.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку** 16.11.2019 у 19.10
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.